# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamlennį**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, pahonia.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

№ 3 (613)
Сакавік 2017 г.


## Віншуем нашых сяброў і прыхільнікаў зь 99-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці

## Беларускай Народнай Рэспублікі

Æûâå Áåëàðóñü!



**25 Сакавіка - Дзень Волі**

# “Няхай жыве магутны сьмелы наш беларускі вольны дух!”

***(Выступ на лютаўскім 2017 г. Сойме КХП-БНФ і БНФ “Адраджэньне”)***

***Зянон ПАЗЬНЯК***



Падрыхтоўка паўзучага захопу тэрыторыі Беларусі, яе рэсурсаў, народа і дабра вынікае з імпэрскай стратэгіі Расеі і пачалася адразу пасьля здабыцьця дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Асаблівасьць гэтай стратэгіі ў тым, што захоп беларускай тэрыторыі плануецца і ажыцьцяўляецца Масквою шляхам ліквідацыі беларускай нацыі. Галоўны мэтад вынішчэньня – русыфікацыя, разбурэньне культуры і грамадзянскай супольнасьці. Ідэалягічная аснова і галоўны чыньнік такой тыпова фашыстоўскай палітыкі – дыскрэдытацыя, забарона і зьнішчэньне беларускай мовы.

22 гады ўкараняў такую палітыку ў Беларусі прамаскоўскі сатрап Лукашэнка, які ўсталяваў у краіне рэжым унутраннай акупацыі (г. зн. палітыку чужой дзяржавы). Адносіны паміж Лукашэнкам і Масквою пабудаваныя па заганнай (але распаўсюджанай ў палітычным сьвеце) схеме: сатрап прадае нацыянальныя інтарэсы і праводзіць у краіне палітыку, купляючай сатрапа, кіроўнай імпэрыі. Купляючая (кіруючая) дзяржава падтрымлівае неперапыннасьць улады сатрапа і аплочвае ягоныя асноўныя патрэбы (дае пазыкі, льготы, зьніжкі, прэфэрэнцыі, касуе крэдыты ды запазыкі і т. п.). У гэтым істота марыянэткавасьці, васальнасьці, сатрапнасьці і ўсялякай дзяржаўнай ды ўладнай запрадажнасьці ў палітыцы. За здраду плоцяць.

Сутнасьць жульніцкага канфлікту ў гэтай зьвязцы ў тым, што Масква лічыць, што плоціць шмат, але атрымлівае мала, а сатрап лічаць, што яму не выплочваюць таго, што абяцалі. Гэтую здрадніцкую гразь і гандлярскае словаблудзтва беларусы назіраюць ўжо больш за дваццаць гадоў. Прытым сатрап умудраецца выстаўляць свой гандаль як абарону нацыянальных інтарэсаў, і для дурняў таго тлумачэньня хапае.

Аналягічны шлях быў падрыхтаваны для Ўкраіны, супраць якой Масква ўжо вядзе гібрыдную вайну і ўзброеную агрэсію, бо ўкраінцы паўсталі. Правал фашыстоўскіх плянаў супраць Украіны спарадзіў у Масквы новыя агрэсіўныя ініцыятывы – вайну ў Сырыі і падрыхтоўку захопу Беларусі.

Апошняя пазыцыя на розныя лады ўмаляецца маскоўскай прапагандай і агентурнай службай Лукашэнкі (маўляў, навошта Маскве Беларусь?). Тым часам адносіцца да гэтых маскоўскіх плянаў трэба сур’ёзна, як бы неверагодна яны ні выглядалі, ці некаму здаваліся, бо падрыхтоўка дзеяньняў прадугледжвае самыя дзеяньні.

Пра гэта неабходна пастаянна казаць, пісаць і рэальна рыхтавацца да абароны ад збройнай агрэсіі. Складанасьць у тым, што жывучы пры антынародным рэжыме ўлады, рыхтавацца трэба незаўважна, бо рэжым прадажны. Гэтым абумоўлены наш падыход: індывідуальная падрыхтоўка і групы па 2-3 чалавекі, без структурызацыі (толькі абмежаваныя гарызантальныя сувязі). Такі падыход дасьць магчымасьць захаваць людзей і ў патрэбны час хутка стварыць дабраахвотніцкія батальёны і партызанскія аддзелы.

Кожны змагар-патрыёт мусіць уясьніць для сябе правільныя ацэнкі і паводзіны і разумець, што Лукашэнка здрадзіць і здасьць усё, калі ўзьнікне пагроза ягонай ўладзе і жыцьцю. Ён ёсьць непасрэдная прычына няшчасьцяў нашай нацыі. Сатрап і беларусаненавісьнік ня стане рэальна супраць Масквы.

Калі дапусьціць неверагодныя абставіны, у выніку якіх, напрыклад, сатрап уцягнецца ў збройны канфлікт з Масквою (фармулюю гэта толькі ўмоўна), то тады дабраахвотніцкія батальёны мусілі б дзейнічаць цалкам самастойна, ні ў якім разе не зьмешвацца і не яднацца разам з лукашыстамі, бо гэта, як кажуць, супярэчыць прыродзе рэчаў, розныя мэты, розныя ідэалы, хоць бы і агульны (але для рэжыма умоўны) непрыяцель. У адваротным выпадку вызвольныя сілы будуць ліквідаваныя рэжымам.

Дарэчы, цікава, што якраз у гэты час дробная агентура пачала “піярыць” Лукашэнку як “барацьбіта” супраць Расеі ды выратавальніка Беларусі, маўляў, яднаймася вакол сатрапа (які пасварыўся з панам, і невядома ці надоўга). Адзін тыпаж, які раней абгаджваў маё імя, назваў сатрапа нават “бацькам, Булак-Балаховічам”. Яшчэ не такое мы цяпер пачуем.

Ускосныя зьвесткі, якія дайшлі да мяне, сьведчаць аб тым, што нашыя заклікі знайшлі сваіх людзей. Ёсьць нават паведамленьні, што хтосьці легальна імкнецца стварыць дабраахвотніцкія батальёны тэрытарыяльнай абароны і зьвярнуўся нават да рэжымнай вэртыкалі па “садзеяньне”. Наіўна, але і тое добра. Яно шмат што высьветліць тым, хто яшчэ нечага не разумее.

Фармальна лягічным выглядае паведамленьне аб стварэньні дабраахвотных грамадзкіх вайсковых камісіяў (ваенкама-

***працяг на бачыне 3***

# Лютаўскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 11 лютага, у Доме Маракоў на Мангэтане ў Нью-Ёрку адбыўся чарговы лютаўскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”.

Напачатку сходу старшыня арганізацыі сп. Віталь Зайка распавёў для гасьцей пра мэты і прынцыпы Згуртаваньня і яго бягучую дзейнасьць, якая ўлучае сяброўскія імпрэзы і сьвяткаваньні, мітынгі ды іншыя акцыі ў падтрымку свабоды і дэмакратыі ў Беларусі, а таксама інфармацыю ды іншую дапамогу ў справе зьмены статусу ў ЗША. Сходы арганізацыі зьяўляюцца пляцоўкай для калегаваньня сяброў і гасьцей “Пагоні”. Сп. Зайка таксама зьвярнуў увагу прысутных на публікацыі “Пагоні” ды іншыя беларускамоўныя выданьні, што друкуюцца ў ЗША, у прыватнасьці, альманах “Беларус”.

Затым у межах сходу прайшала сьвяточная лірычна-музычная імпрэза-вечарына, падрыхтаваная сп-няй Ірынай Хадарэнка. Яна пачала імпрэзу з віктарыны, прысьвечанай Дню сьв. Валянціна, што ўключала пытаньні пра гісторыю і значаньне гэтага сьвята, адзначэньне якога ў апошнія дзесяцігодзьдзі распаўсюдзілася па ўсім сьвеце і нават выклікала супрацiў збоку праваслаўнай царквы ў Расеі, а таксама ісламскіх аўтарытэтаў у такіх краінах як Пакістан і Аўганістан. Прысутным цікава было даведацца, што Дзень сьвятога Валянціна сьвяткуецца ў ЗША ажно з 1777 года, а лёс самога сьвятога, хоць і быў трагічны, але выклікаў шанаваньне, якое зь цягам стагодзьдзяў набыло новы сымбалічны зьмест. Сярод удзельнікаў віктарыны сваімі ведамі й дасьціпнасьцю (а таксама маланкава хуткім пошукам у Гугле) вызначыўся сп. Анатоль Цяценькін, які атрымаў найбольш прызоў.



Ірына Хадарэнка



Валеры Клімовіч

Затым адбыўся выступ сп-ні Ірыны Хадарэнкі ў яе ўвасабленьні як паэткі. Яна чытала свае вершы, а таксама свае пераклады з польскай паэзіі, у прыватнасьці, некалькі вершаў культавага цяпер паэта Рафала Вуячака. Яна таксама закранула тэму беларускага эратычнага фальклёру і ягонае адлюстраваньне ў творчасьці Рыгора Барадуліна. Паэтка распавяла пра сваё знаёмства з паэтамі Рыгорам Барудулінам і Генадзем Бураўкінам, якія былі ў жыцьці сябрамі, і розныя забаўныя выпадкі, што адбыліся зь імі, прывяла шэраг цікавых гісторыяў з жыцьця іншых беларускіх пісьменнікаў – Уладзімера Караткевіча, Петруся Броўкі, Івана Шамякіна.

Затым перад прысутнымі на імпрэзе-вечарыне выступіў музыка Валеры Клімовіч, які выканаў песьні на беларускай, ангельскай, расейскай і гішпанскай мовах. Ён распавёў пра сябе, пра сваё бачаньне Амэрыкі й пра свае мары. Сп. Валеры Клімовіч заваяваў сымпатыі гасьцей вечарыны, пранікнёна выканаўшы пад гітару знаёмыя аўдыторыі сьпевы і нават пад гучныя воплескі быў выкліканы “на біс”.

Затым перад прысутнымі выступіла сп-ня Валянціна Якімовіч, якая запрасіла ўсіх далучыцца ў нядзелю 5 сакавіка да ўдзелу ў традыцыйным беларускім абрадзе Гуканьня Вясны. Яна распавяла таксама пра падрыхтоўку выданьня твораў выбітнага паэта Уладзімера Дубоўкі і заклікала далучыцца да матэрыяльнай падтрымкі гэтага выданьня, распаўсюдзіўшы адпаведную інфармацыю пра формы падтрымкі.

Заснавальніца і вядучая беларускага кінаклюбу ў Нью-Ёрку Наста Сергіеня анансавала чарговы кінапаказ, што прымеркаваны да Дня закаханых.

Арганізатарка і кіраўніца праекту “Дзед-Барадзед” Ганна Шарко падзялілася творчымі плянамі свайго праекту на вясну, якія ўлучаюць правядзенне імпрэзы ў гонар сьвята 25 Сакавіка з удзелам вядомых музыкаў зь Беларусі.

У разьдзеле “Рознае” прагучэлі аб’явы, адбыліся знаёмствы з гасьцямі арганізацыі. Затым у неафіцыйнай частцы прысутныя маглі працягнуць знаёмства пры віне і пачастунках. Цудоўная сяброўская атмасфэра паспрыяла таму, што нават новыя людзі, што зусім нядаўна прыляцелі ў Амэрыку, адкрыта і ахвотна распавядалі пра сябе, навязвалі міжасабовыя кантакты. На сходзе было шмат моладзі; разам колькасьць удзельнікаў, сярод якіх былі таксама некалькі выхадцаў з Украіны і Малдовы, перавышала 60 чалавек.

Як напісала пасьля на Фэйсбуку арганізатарка імпрэзы-вечарыны сп-ня Ірына Хадарэнка: “Утульная канфэрэнц-заля ў Мангэтане ледзьве зьмясьціла ўсіх жадаючых – вольных крэслаў хапіла далёка ня ўсім, аднак надзвычай цёплыя і прыязныя абставіны сустрэчы запомняцца ўдзельнікам мерапрыемства надоўга”.

***Віталь ЗАЙКА***

# Беларусь і ЗША - слаўныя вехі дыпляматыі

25 гадоў таму, 28 снежня 1991 года, адбылася знамянальная падзея для незалежнай Беларусі – усталяваньне дыпляматычных адносінаў са Злучанымі Штатамі Амэрыкі. Пачатак 90-х гадоў характарызаваўся росквітам двухбаковых адносінаў. Найбольш яскраваю і паспяховаю спробаю супрацоўніцтва сталася пытаньне ядзернага раззбраеньня. Упершыню Беларусь агучыла сваю пазыцыю на гэты конт у Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларускай ССР ад 27 ліпеня 1990 года. Так, згодна артыкула 10: “Беларуская ССР ставіць мэтай зрабіць сваю тэрыторыю бязьядзернай зонай, а рэспубліку – нэйтральнай дзяржавай”. На той момант Беларусь яшчэ не набыла поўную самастойнасць ад Масквы, але гэтая падзея стала “альфай і амэгай” айчынный зьнешняй палітыкі ў першай палове 1990-х гадоў.

Адпаведна Лісабонскім пратаколам ад 23 траўня 1992 года да Дамовы аб ска-

***заканчэньне на бачыне 3***

## “Няхай жыве магутны, сьмелы...”

*заканчэньне з бачыны 1*

таў). Але людзі, якія гэта агучылі (М. Статкевіч), ня маюць даверу ў палітычным асяродзьдзі. І таму, калі рэальна ўзьнікне патрэба, то ўсё прыйдзецца рабіць ад пачатку іншым асобам.

Даты, калі расейцы па дамове з Лукашэнкам будуць заводзіць свае войскі і танкі ў Беларусь для нібыта сумесных манеўраў, ніхто яшчэ ня ведае (гэтак жа як і пра час і месца “манэўраў”). Беларусы, аднак, інфармацыю пра тое мусілі б мець, ведаць графік завозу зброі і акупанцкага войска па чыгунцы, рабіць неабходныя дзеяньні. Зараз гэта галоўнае. Усё трэба рабіць дзеля прадухіленьня акупацыі, дзеля падрыхтоўкі да абароны ад агрэсара, дзеля арганізацыі адпору ворагам.

Унутранае становішча пад рэжымам ужо даўно эканамічна тупіковае і ўвесь час пагаршаецца. Адносіны між рэжымам і грамадствам усё больш нагадваюць дачыненьні ў Паўночнай Карэі. Сорамна і цяжка на гэта глядзець, але факт. Факт, які акрамя ўсяго нагадвае пра небясьпечную сілу ўлады, калі яна пры слабым грамадстве трапляе ў рукі дрэнным людзям. Гісторыя паказала, што злабаедная ўлада можа зламаць хрыбет любому народу і ператварыць яго ў натоўп (Куба, Нямеччына ў 30-х, Расея, Карэя і інш.). Народ пачынае сам сябе нішчыць і разбураць пад узьдзеяньнем і прымусам злой улады, асабліва, калі ўладная нечысьць прыдумляе сваю ідэалёгію.

Будучыню дзяржавы павінны вызначаць разумныя, культурныя, адукаваныя патрыёты краіны. Неадукаванасьць, бескультур’е не павінны кіраваць і быць ва ўладзе. Абсурдаў хамскага рэжыму ў Беларусі культурныя людзі нацярпеліся дастаткова за 22 гады антынацыянальнай улады. Ды мала што зьмянілася, бо хамская ўлада абапіраецца не на эліту, а на натоўп, які маніпулюе (выраблена яго душыць і выраблена падтрымлівае). У гэтым жывучасьць дэструктыўных рэжымаў і дыктатураў.

У мінулым годзе рэжым выдаў чарговы антыканстытуцыйны дэкрэт № 3 аб прымушэньні да працы (так было пад маскоўскай саветчынай). Называецца дэкрэт “Аб папярэджаньні сацыяльнага ўтрыманства”. Галоўны хам ахрысьціў сваю прыдумку дэкрэтам аб “дармаедах”, г. зн. аб людзях, якія па той ці іншай прычыне часова ня маюць працы (беспрацоўныя, парадзіхі, творчыя асобы, агароднікі, інваліды, хатнія гаспадыні і г.д.). Матывацыя тыпова рабская – маўляў, гэтыя людзі не прыносяць даходу дзяржаве і таму павінны плаціць падатак за сваё нібыта беспрацоўе. (На самой справе гэтыя “беспрацоўныя” людзі эканамічна ўтрымліваюць уладу, а не наадварот).

Сытуацыя ў каторы раз ставіць пытаньне аб ліквідацыі шызоіднага рэжыму, аб зьмене ўлады. Але рэальнасьць паказвае адваротнае. Людзі прызнаюць гэтую нелегітымную ўладу, якая плюе ім у твар, і зьбіраюць подпісы пад пэтыцыямі, каб начальнік адмяніў свой дэкрэт (чаго, вядома, ніколі не станецца). Ініцыятывы прасіцеляў тут жа ачольваюць запісныя “апазыцыянэры” і клічуць людзей на дэманстрацыю супраць дэкрэта (спачатку сп. Лябедзька паклікаў на 15 сакавіка, а потым М. Статкевіч на 17 лютага). Як звычайна ў правакацыях – ніякага пляну і мэты дэманстрацыі няма. Пакажам, “каб улада баялася”, кажа М. Статкевіч. Шчыра і прастадушна. Тут як з пляскаиньнем у ладкі. Не кажу ўжо пра 19 сьнежня 2010 года.

Узьнікла група сацыяльна нездаволеных дэкрэтам № 3. Трэба рэжыму тое нездавальненьне згадзіць, пасеяць нявер’е. Запісныя асобы тут жа забягаюць наперад (нават адзін аднаму). Утварылася гэткая (не без спрыяньня рэжыму) грамадзкая пляга, саранча, якая не дае арганізавацца сур’ёзнай справе, падсоўвае людзям дурацкія паводзіны, якія канчаюцца пшыкам (гэта ў лепшым выпадку).

Калі ў выніку дэкрэта зьяўляецца акрэсьленая група нездаволеных людзей колькасьцю ў 470 тысячаў чалавек, чые інтарэсы аднолькава парушаныя, то зьяўляецца і адпрацаваная схема змаганьня за свае інтарэсы. Гэта канфэрэнцыя такіх людзей, фармуляваньне на ёй інтарэсаў і задачаў, стварэньне арганізацыі і структураў, якія зоймуцца эканамічнымі і юрыдычнымі пытаньнямі, сфармулююць палітычныя патрабаваньні і, калі дойдзе справа да дэманстрацыі, то яна будзе мець мэту і дзесяткі тысячаў дэманстрантаў, якімі граматна пакіруюць граматныя людзі. (Так ствараўся БНФ пад камунізмам).

Каб тое не адбылося, наперад забягаюць правакатары ў вобразе “герояў-змагароў” і робяць пшык, штрафы, пасадкі, расчараваньне, упадак сілаў, фіксацыю для гэбістаў і т. п..

Зрэшты, тут усё празаічна відаць. Нічога не атрымаецца ні ў правакатараў, ні ў “дармаедаў”, якія не дарасьлі да палітычнага ўсьведамленьня аб ліквідацыі антынацыянальнага рэжыму. Карэізацыя працягваецца. Людзі, якія змагаюцца не за народ, не за свабоду, гонар, веру і “вольны дух” (як пяецца ў беларускім гімне), але патрабуюць толькі хлеба і матэрыяльнага заспакаеньня, – ня будуць мець ні гонару, ні волі, ні хлеба. Тыя, што адвярнуўшыся ад вольнага духу, ідуць за абяцальшчыкамі дабрабыту, – не атрымаюць яго, толькі рабства, паняверку і вечны плач.

У гэтай абсурднай сытуацыі, патрыёты, рыхтуймася да змаганьня і да збройнай абароны незалежнасьці Беларусі! Гэтая барацьба можа ўсё вырашыць. У тым ліку і пра існаваньне антынароднага рэжыму.

*12 лютага 2017 г.*

## Беларусь і ЗША...

*заканчэньне з бачыны 2*

рачэньні стратэгічных наступальных узбраеньняў, нашая краіна разам з Украінаю і Казахстанам павінны былі вывезьці ў Расею ўсю ядзерную зброю да 1997 года. А вывозіць было што – Беларусь была чацьвёртай ядзернай дзяржавай сьвету пасьля Расеі, ЗША і Ўкраіны.

Дзеля рэалізацыі гэтай дамовы і гарантаваньня бясьпекі былыя савецкія рэспублікі падпісалі з краінамі-гарантамі: ЗША, Расеяй і Вялікабрытаніяй, так званы Будапэшцкі мэмарандум ад 5 сьнежня 1994 года, вартасьць якога мы ўжо ацанілі ў сытуацыя з Крымам.

Тэхнічныя і фінансавыя пытаньні вывада ўзбраеньня ажыцьцяўляліся на падставе Закона “Нанна-Лугара” ад 1991 года, названага ў гонар амэрыканскіх сэнатараў Сэма Нанна і Рычарда Лугара. Карацей кажучы, усё было падрыхтавана дзеля пасьпяховага выкананьня пастаўленай задачы, што і было зроблена 27 лістапада 1996 года, калі з прыпынку Яцукі Гродзенскай вобласьці апошняя ядзерная ракета пакінула межы Беларусі.

Ня ўсе было так гладка, як падаецца. У Беларусі былі сілы, якія не жадалі гэтага. Канчатковы вывад адбыўся на фоне канстытуцыйнана крызісу. Лукашэнка затрымаў вывад апошніх 18 ракет да лістапада 1996 года, але падзеі на ўнутрапалітычным фроньце для яго былі відавочным прыярытэтам. Цікава, што чалавек, што не прапускае ніводнай, нават заштатнай падзеі, на афіцыйным мерапрыемстве па вываду апошняга боезараду не прысутнічаў. Сваю пазіцыю ён пацьвердзіў і ў кастрычніку 2014 года на прэс-канфэрэнцыі: “Вывад ядзерный зброі быў галоўнай памылкай майго прэзыдэнцтва”.

У адрас мінулага кіраўніка Беларусі С. Шушкевіча гучалі абвінавачаньні, што зброя была вывезена супраць нацыянальных інтарэсаў ды яшчэ і задарма. Статыстыка паказвае іншае. З 1,5 млрд. дал, якія былі вылучаныя ЗША постсавецкім краінам у рамках праграмы Нанна-Лугара, Беларусь атрымала менш за ўсіх – 80 млн. Астатнія 40 млн. былі замарожаныя адміністрацыяй Клінтана ў пачатку 1997 года з-за парушэньняў правоў чалавека па выніках рэфэрэндуму 24 лістапада. Як вядома, на ўсіх астатніх накірунках супрацоўніцтва адбыліся аналягічныя нэгатыўныя зьмены.

Беларусь далучылася да Дамовы аб нераспаўсюджваньні ядзернай зброі ў 1993 г., стаўшы першай краінай ў сьвеце, што абвясьціла сябе бязьядзернай. І, дзякаваць Богу, мы не пайшлі шляхам якой-небудзь “Верхняй Вольты з балістычнымі ракетамі” ці Паўночный Карэі.

***Аляксандар СОЛАД***

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Let’s Build The Wall

Трамп, безумоўна, робіць у галовах амэрыканцаў пэўную рэвалюцыю ў разуменьні слова мяжа. Дагэтуль у Амэрыцы уяўленьне пра яе застаецца расплывістым. Мяжа з Канадаю – гэта месца куды ўцякаюць станоўчыя героі галівудзкіх стужак, якія па нейкай прычыне не паладзілі з амэрыканскім правасудзьдзем. Адмоўных герояў, якія хочуць перабрацца ў Канаду, звычайна ўдаецца спыніць. Каму не пашанцавала ўцячы ў Канаду, той можа даць драпака ў Мэксыку. Там, дзе няма шэрыфаў, і застаюцца пасьля крывавых разборак некаторыя каўбоі, і там дзе зашываюцца гнаныя Сара Конэр, ейны сын Джон і добры Тэрмінатар. Гэтыя амэрыканскія межы, як межы нашых палёў, абгароджаных канаўкамі і дзікімі ігрушкамі, вельмі недасканалыя. На шмат якіх адрэзках, у месцах зь дзікай прыродай, праз гэтыя межы можна зь лёгкасьцю пранікнуць, што і робяць шматлікія наркадылеры, бандзюганы і іншыя нелегалы. Што такое мяжа, амэрыканцы дагэтуль фактычна ня ведалі.

Заўважце, што калі вядзецца пра краіны Эўропы або іншыя кантынэнты, то гаворка ідзе пра “overseas”, што даслоўна азначае не “замежжа”, а “замор’е” Такі вось натуральны, тыповы, зрэшты, для астраўчан, канцэпт сьвету, бо Мэксыка і Канада гэта блізкае замежжа, а ўсё што за вадою – тое ўжо “заакіяншчына”. У Амэрыку цяжка трапіць з-за мора, а калі ты ў Мэксыцы або Канадзе, то лічы, ты ўжо як дома. І калі Трамп, які мае ў сабе шмат шкоцкай крыві і гэнэтычную памяць пра Вал Адрыяна (Hadrian’s Wall), прапаноўвае збудаваць сьцяну, то бок, рэальную мяжы з Мэксыкай, то, канешне, у многіх амэрыканцаў ад гэтай прапановы ўзьнікае кагнітыўны дэсананс.

Дарэчы, Вал Адрыяна павінен быў бараніць Рымскую імпэрыю ад набегаў дзікіх піктаў і брыгантаў, а фактычна, дапамог будучым шкотам асэнсаваць сваю адасобленасьць ад Англіі. Так і сьцяна, якую хоча збудаваць Трамп, у пэрспэктыве можа аказацца бласлаўненьнем нават для саміх мэксыканцаў.

Па часткова захаваным фрагмэнце першага перакладу Міцкевічаўскага “Пана Тадэвуша” (1859) на беларускую мову, зробленага Вінцэнтм Дунінym-Марцінкевічам, бачна, што ў беларусаў у 19 стагодзьдзі быў пашыраны прыкладна той сам канцэпт мяжы-замор’я, што і ў амэрыканцаў. Тут варта нагадаць, што значную частку сваёй гісторыі наш край меў ажно два выхады да мора. У арыгінале Міцкевіч па-польску піша: “Архітэкт быў майстрам зь Вільні, а ня готам”, што Дунін-Марцінкевіч перакладае як “Замак стаўляў муляр зь Вільні, не з-за мора”. Міцкевіч: “Калі наша моладзь езьдзіць за граніцу, то ўжо не па адзёжу”, Дунін-Марцінкевіч: „прайшла ў нашай моладзежы ахвота лётаць за дом па модны адзежы”. Міцкевіч: „На Ломбардзкім полі”, Дунін-Марцінкевіч: “На чужой ролі”. Міцкевіч: „У Англіі і Шатляндыі кожны замак лордаў, у Нямеччыне кожны графскі двор быў тэатрам забойстваў”, Дунін-Марцінкевіч: „у замор’і грузы замкавыя абліты людзкай кроўю, вось двары мясныя”. Міцкевіч: „З саскай парцаляны залатыя філіжанкі”, Дунін-Марцінкевіч: „Із заморскае гліны місачкі дый чаркі”. Міцкевіч: „Немцаў цывілізацыя”, Дунін-Марцінкевіч: „Немцаў вялікі розум”. Сёньняшнія ўнівэрсытэцкія невукі палічылі б гэткі стыль спрашчэньнем і абазвалі б “сымпліфікацыяй”.

Як бы там не было, час мяняе мысьленьне ня толькі паасобных людзей, а нават цэлых народаў. Прызвычаяцца і амэрыканцы. Ну і беларусам не пашкодзіла б, урэшце, адгарадзіцца па ўсіх! напрамках. Сьцены – гэта, наогул, нешта цудоўнае. Паглядзіце на шэдэўр архітэктуры Вялікую кітайскую сьцяну або на рэткі Бэрлінскай. Кітайская ўсё яшчэ велічна ўзвышаецца, так як і эканоміка Кітая, а тым часам Нямеччына... Занадта доўга розныя Пінк Флёйды і Качмарскія вучылі нас ненавідзець сьцяну, насуперак прыродным, людзкім інстынктам да самазахаваньня і бясьпекі сябе і сваіх родных. Нас хацелі прывучыць, што ў новым сьвеце мяжу заменяць сьцяжкі і нацыянальныя стравы. У Вялікага Княства таксама былі такія межы і рубяжы, і дзе цяпер тое княства...?

***Віталь ВОРАНАЎ***

### Уплаты ў Згуртаваньне
### Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:

**В. Албут** .....................60
**П. Барцэвіч** ..................60
**С. Кудзеліч** ..................60
**А. Лабачэўская** ...............60
**К. Макарэвіч** .................60
**П. Пацэнка** ...................60
**З. Сілко** .....................60
**С. Скародзька** ................60
**А. Солад** .....................60
**М. Тычынская** ..................60
**В. Хобатаў** ...................60
**З. Шаламіцкі** ..................60
**Я. Ягоўдзік** ...................60

**Усім шчыры дзякуй!**

*Паважаная **М. Станішэўская**, калі ласка, паведаміце рэдакцыі ваш дакладны паштовы адрас.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **25-га сакавіка 2017 года** на Мангэтане ў Доме Маракоў па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.

Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

*На сходзе пляннуецца адзначыць 99-я ўгодкі абвечаньня незалежнасьці БНР.*

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

**А. Лабачэўская** ..............30
**П. Пацэнка** ...................30
**С. Скародзька** ................30
**М. Станішэўская** .............30
**М. Тычынская** .................30
**В. Хобатаў** ....................30
**Я. Ягоўдзік** ..................30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі ($30) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

*Падпіску таксама можна аформіць на сайце **www.e-krama.com***